








# Выбар

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

## НАШ ПУТЬ БЫЛ ТРАГИЧЕСКОЙ ОШИБКОЙ,

### считает Василь Быков

**—Василь Владимирович, вы недавно вернулись со Съезда народных депутатов, где приняты воистину исторические решения. Самое главное из них—нет больше единой Страны Советов, которой гордилось несколько поколений советских людей, на ее месте возникает иное содружество самостоятельных, суверенных государств. Многие, особенно люди преклонного возраста, воспринимают это болезненно, даже трагически.**

—Давайте сразу определим: что есть разрушение империи с исторической точки зрения—добро или зло? К концу двадцатого столетия все, кроме нашей, даже самые могущественные империи распались. Их части так или иначе самоопределились и живут значительно лучше нашего. Понять людей преклонного возраста можно, но вот можно ли оправдать их переживания? Ведь, кроме их, прямо скажем, незавидной судьбы, есть еще судьбы потомков, их детей и внуков. Неужели они хотели бы, чтобы и их судьба была такой же многострадальной? Октябрь семнадцатого был трагической ошибкой, которую мы усугубляли 74 года. Но мне думается, что дело вовсе не в ошибке, пусть даже самой роковой. Дело в неправомерности изначальной установки, выдвинутой марксизмом, когда одна политическая партия присваивает себе безоговорочное право строить по схеме определенное общество и загонять в эту схему все поистине неохватное разнообразие человеческой жизни. Человечество развивается по собственным, Богом данным законам, во многом еще недоступным и непонятным самому человеку. Всякий диктат, пусть даже с наилучшими намерениями, неуместен, неестествен и бесплоден. Вот почему человечество, сколько оно существует, неустанно бьется за свободу общественного развития, которой его так же неустанно лишают силы, обладающие такой возможностью.

**—Да, но ведь само свободное существование общества нуждается в определенной организации, регламентации.**

—Разумеется. Но известно, что ничего лучше демократической организации человечество не изобрело. Хотя, должен заметить, и демократия обладает массой недостатков. Важно, чтобы общество созрело для демократии, чтобы демократические институты явились для него желанной формой народовластия, чтобы не занималось оно бесплодными поисками собственного, особого пути, которые, как показывает давний и недавний опыт, нередко заканчиваются диктатурой, историческим тупиком. Таким трагическим тупиком явилась и коммунистическая утопия—тупиком, из которого теперь неизвестно, как выбраться.

**—Как определить степень демократической зрелости общества, при которой возможен широкий и плодотворный переход к глубоким реформам! Возможны ли здесь ошибки, которые мы потом называем роковыми!**

—Не только возможны, но даже неизбежны. Развитие общества происходит неравномерно в силу различных обстоятельств, в том числе даже природных факторов. В то время как одни нации давно вступили на демократический путь, другие—довольствуются полуфеодальными формами народовластия. И что самое скверное—полуфеодальной психологией... Балтия, например, раньше Белоруссии и Украины поняла, что только на путях демократического самоопределения и полной национальной независимости можно построить современное цивилизованное общество. Она героически боролась за свои идеалы и победила. Но для этого потребовалась активность всего народа, не только национальной интеллигенции. Пример Балтии лишний раз убеждает в непреложной святости принципов времени—праве нации на самоопределение. Святое дело всегда «обречено» на победу, какие бы жертвы для этого ни пришлось принести...

**—Почему же с этим святым делом так не везет белорусской нации! Почему процесс самоопределения протекает у нас с такими задержками и осложнениями!**

—Чтобы понять этот феномен, следует оглянуться на нашу историю. Ведь то, что ныне выглядит одним из несомненных пороков, еще недавно выдавалось партбюрократией за достоинство. Вспомните: в деле «стирания граней», «успешного шествия к коммунизму», «слияния наций и языков» белорусы шли впереди всех. Мы почти отказались от собственного языка, нивелировали особенности национальной культуры. Власти бдительно следили, чтобы наше национальное самосознание пребывало в зачаточном состоянии.

Даже в годы перестройки яростно подавлялись робкие проявления национальной культуры. Силами МВД заливались купальские костры, мужественные парни-«афганцы», науськанные горкомом партии, избивали девчат, которые вышли на берег Свислочи «гукать весну». Вспомните, наконец, какую кроваво-газовую бойню устроили для минчан 30 октября 1988 года. Для людей, которые собрались на кладбище почтить память предков. И теперь министр, устроивший устрашающий отпор «толпе», заседает в парламенте.

Позже партийная печать на все лады изощрялась в призывах не допускать «излишней политизации масс», пресекать митинговые страсти». Многоопытный пропагандистский аппарат изобрел «афоризмы»: «от митингов колбасы не прибавится» и «сперва надо накормить народ, а потом менять букву в названии Минска». Подобные лозунги не прошли бы ни в Балтии, ни на Украине, а у нас они работали, обрекая народ на пассивность и политическое безверие...

**—Почему! Не кажется ли вам, что практически бездействовала белорусская интеллигенция!**

—Ну обо всей белорусской интеллигенции я бы так не сказал... Лучшие представители белорусской интеллигенции никогда не прекращали борьбы за идеалы народа. И в прошлом, и теперь. Ведь именно передовая интеллигенция создала белорусский Народный фронт, который повел активную борьбу с прогнившей системой. Но возможности фронта в условиях партийного засилья оказались ограниченными, его парламентская группа составила всего лишь одну пятую часть. Четыре пятых—это послушное большинство, которое номенклатура при помощи самых бессовестных манипуляций прочно посадила в парламентские кресла. Многочисленные факты грубейших нарушений, злоупотреблений и махинаций

**(Окончание на 6-й стр.).**

*Інтэрв'ю перад мінулай сесіяй*

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ:**

# «КАЗЁННАЕ ЛЕПШ, ЧЫМ СВАЁ...»




*З нашым карэспандэнтам гутарыць паэт-зямляк, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, член Цэнтральнай рады Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады Анатоль Ільіч ВЯРЦІНСКІ.*

**—Анатоль Ільіч, выкажыце спецыяльна для землякоў, што выспявае ў Вярхоўным Савеце па лёсе кампартыі, па ацэнцы яе маральнага вобліку! Ці збіраецца партыйная наменклатура выступіць з контрударам!**

—Па выніках расследавання часовай камісіі па ўдзелу КПБ у перавароце павінна прымацца нейкае рашэнне, але, як мне здаецца, мала што атрымаецца. Будуць зроблены захады з боку партыйцаў, хаця прынятую ўжо пастанову аб прыпыненні іх дзейнасці наўрад ці ўдасца адмяніць.

**—А могуць на гэтым настойваць!**

—Могуць, неабходны 174 галасы. Яны ім будуць патрэбны, каб потым правесці пленум ці з'езд. Але, думаю, камуністы-дэпутаты гэтульکі галасоў ужо не збяруць. Складанасці ў партыі і другія: няма Статута, няма Праграмы, рэгістрацыя, якая была зроблена летам, анулявана Мінюстам, бо не адпавядала заканадаўству. Ды і сама рэгістрацыя, што агульнавядома, была зроблена валявым актам. Кіраўніцтва ЦК КПБ прымусіла зрабіць рэгістрацыю партыі, па сутнасці, як аддзяленне КПСС. З распадам апошняй КПБ перастала існаваць аўтаматычна.

**—А як усё ж—такі будзе з партыйнай маёмасцю! Нядаўна ў «Народнай газеце» былі змешчаны фотаздымкі дачных асабнякоў высокапастаўленых чыноўнікаў ад ЦК. Яны партыйна-дзяржаўныя ці пабудаваны на ўласныя зберажэнні! Тады, як так хутка ўдалося ўзвесці такую будыніну Камаю! Ён жа ў Мінску параўнаўча нядаўна, пасля Чарнобыля.**

—Калі гаварыць пра Камая, дык не толькі дачу можна прыпомніць. Яго імя фігурыравала і ў гісторыі з кватэрамі, і ў справе адносна камерцыйнай дзейнасці яго сына, ды і ў іншых справах. Каб ён быў сапраўдны камуніст і прытрымліваўся прынцыпаў маралі, этыкі, ён даўно павінен быў бы падаць у адстаўку. Але Камай менавіта з тых, хто даўно перастаў быць партыяй, якая называла сябе слугой народа.

**—Дык усё ж, дачы КПБ дзяржаўна-цэкоўскія, ці іх паwыкупілялі ў апошні час!**

—Партыйцы з вышэйшага эшалону заўсёды прыбядняліся і па-фарысейску хітрылі перад народам: дач у іх няма, машын няма, прывілей—таксама, усё—казённае. І гэта яны выдавалі за норму, хаця тысячы, мільёны людзей не маюць ні свайго, ні гэтага казённага. Ды і што такое казённае? Гэта—больш зручнае і больш выгаднае для іх, чым сваё, бо сваё трэба купіць, пабудаваць, рамантаваць і гэтак далей.

А што такое мець сваю машыну? Гэта трэба быць за рулём, трэба мець гараж, купляць бензін, шукаць запчасткі... Не тое казённая: выйшаў да пад'езда, дзе цябе чакае шафёр, сеў і паехаў. І—нічога не трэба.

У апошні час, калі з рук апаратчыкаў пачало выслізгваць казённае, яны кінуліся выкупляць яго па намінальнаму кошту. Я ведаю, у Гарадзішчах, Драздах некаторых ледзь не абавязвалі выкупляць дачы за бясцэнак. Зразумела, не ўсіх.. Выгадна: заплаціш нейкіх там дзесяць тысяч, а дача ж сёння каштуе семдзесят-семдзесят пяць! Але і цяпер, статус казённых дач не вызначаны, і імі па-ранейшаму карыстаюцца...

**—Анатоль Ільіч, вы толькі што пабывалі на сваёй радзіме—Лепельшчыне. Што на яе прыкладзе вы можаце сказаць аб дзейнасці мясцовых улад у раёнах! Ці збіраюцца яны ў сувязі з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі рэарганізаваць сваю работу! А, можа, мясцовыя Саветы ў разгубленасці!**

—Канешне, разгубленасць ёсць. І не толькі на Лепельшчыне. Усё кіраўніцтва ў Саветах раней, знізу даверху, працавала ў атмасферы, калі абсалютна бясспрэчным для іх быў аўтарытэт партыі. Цяпер у нейкім сэнсе утварыўся вакуум, асабліва ў сэнсе адсутнасці той палітычна-адміністрацыйнай улады, якая была ўзведзена ў ранг галоўнай накіроўваючай сілы. Многія зараз у Саветах разгублены, і найбольш людзі без унутраных перакананняў.

Я гутарыў і са старшынёй сельсавета, і са старшынёй райвыканкома, нават удакладняў такую дэталь: чаму не вывесілі да гэтага часу белачырвона-белы сцяг? Фабрыка мастацкіх вырабаў прыняла масавы заказ, але ж маглі гэта зрабіць і самі. Такія, відаць, да ўсяго адносіны...

Гаварыў і пра назву раённай газеты «Ленінскі сцяг». Там, як і многа дзе, такія пытанні таксама яшчэ не вырашаны. А гэта на сёння з'яўляецца анахранізмам.

**Гутарыла Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

## «Почему так быстро меняете «цвет»!»

16 октября по областному телевидению проводилась встреча представителей демократических течений города Витебска с телезрителями. На вопрос всем участникам встречи, в том числе и бывшим коммунистам«Почему так быстро меняете «цвет»?», мы не успели ответить. Восполняю этот пробел.

«Ошибки молодости не так страшны,—сказал как-то великий Гете,—важно не таскать их до старости». Я думаю, этот взгляд актуален всегда. Тем более, что в последние годы мы все получили достаточно много новой информации, чтобы сделать свой окончательный выбор.

**Б. ХАМАЙДА.**

*Письмо в редакцию*

# «Нет на вас товарища Сталина!»

Прочитал первый номер вашей газеты «Выбор». Ну и даете! Одним словом, все понятно: демократы! А я думал—вы порядочные журналисты. Захотели свободы. А разве у нас до этого ее не было?!

Двадцать лет назад Витебск, Могилев, ваша «родная Орша» не знали, куда девать продукты и товары. Полки магазинов были завалены. Это изобилие, между прочим, и было наследием товарища Сталина и его империи, о которой вы сейчас так плохо отзываетесь.

Мне наплевать на национальные богатства США, Германии и т. д. Какое нам до них дело? У нас изобилие было свое, социалистическое, потому что Сталин знал, что делал. Ну, подержал в лагерях два-три миллиона политболтунов, зато остальные сотни миллионов жили в счастье и никто не резал друг другу глотки; наоборот, армяне роднились с азербайджанцами, грузины с осетинами и т. д. И не было тогда тысяч разных газет, а была одна, самая главная, которую все выписывали, даже в лагерях.

И все мы гордились, начиная с детского сада, своей Родиной, и все мы пели «Широка страна моя родная».

Что вы знаете о Сталине? Я сам помню, как все от горя плакали в домах и на улицах, когда он умер. Весь народ советский плакал.

Раньше, при том же Берии, я мог бы поехать в любой уголок нашей великой страны и был бы там желанным гостем, а сейчас попробуй, сунься кудань-будь. Или получишь пулю, или обшарят твои карманы на национальной таможне. Скоро не проедешь к родственникам на Украину, в Россию и т. д. без получения визы.

Я вам не советую тратить силы и воевать за так называемое правовое государство. Лучше жить, чем при Сталине, вы никогда не будете.

Понимаю, что пропагандировать нынче Иосифа Виссарионовича не модно, но еще вспомните меня: через некоторое время водители автомобилей снова станут наклеивать его фотографии на ветровые стекла.

Ничего вы, демократы, не добьетесь, ибо нашему народу нужен Сталин, нашему народу, в отличие от Америки и Европы, надо все время приказывать, без кнута он существовать не сможет. Так было со времен Рюрика.

Так что напрасно вы открыли свой «Выбор»—очередную демократическую брехаловку. Настоящий выбор у нашего народа один—железная рука, если хотите, новый Феликс Дзержинский, по нем мы все соскучились. Надоела ваша болботня!

А ГКЧП—это всего лишь маленькая репетиция. Настанет час, и мы вас всех отправим в зону, и нас горячо поддержат рабочие и крестьяне, которым скоро будет совсем нечего жрать.

Не исключено, что вы, демократы, еще некоторое время погуляете, а скорее всего перегрызетесь между собой. Что ж, гуляйте! Если нет на вас, дураков, товарища Сталина сейчас, то, поверьте, скоро он появится. Ждать осталось недолго.

**С. МЕДВЕЦКИЙ,**
**гор. Витебск, ул. Советская, 124, кв. 2.**

***ОТ РЕДАКЦИИ.*** *Наш корреспондент хотел встретиться с автором этого письма. Однако дома, указанного тов. Медвецким, на улице Советской не оказалось. Этого дома просто нет в природе. Да, собственно, зачем искать автора? Свою позицию он выразил. Думается, нет смысла разворачивать здесь ответное послание, что-то доказывать, приводить аргументы в пользу так называемого изобилия при товарище Сталине. Но один момент представляется важным. До чего же велик страх у автора письма, если он и в пришедшую вольницу, во времена гласности решил спрятаться за вымышленным адресом.*

*Уважаемый соотечественник Медвецкий, своей концепцией Карася, своей глубоководной тоской по Госпоже Щуке вы ничего нового не сказали.*

*Лишний раз объявились, подали голос из привычной для вас тины, в которой хотелось бы вам прожить (а демократы-то мешают) с заполненным до краев желудком.*

*Да, мы, демократы, рожденные временем лишь в конце периода советской истории, разумеется, не лишены недостатков. Но, вспомните, что сказал союзник Иосифа Виссарионовича по антигитлеровской коалиции Уинстон Черчилль: «Демократия—плохая форма правления, но все остальные еще хуже».*

*А относительно газеты «Выбор», заметим, говоря вашим языком, что мы «набрехали» всего-то лишь один номер, а уже успели вам так не понравиться. С чего бы вы так всполошились? Впрочем, если вам дороги бывший диктатор и его приспешники—пожалуйста, грустите на здоровье. Это ваша личная грусть! Это ваше право! У демократов же Беларуси (в отличие от некоторых из других бывших социалистических республик) четко просматривается общее принципиальное намерение: не допустить травли приверженцев прошлого, антикоммунистической истерии. Так что, хотите—вздыхайте по сталинщине, хотите—нет.*

*Спасибо, вы подтвердили своим письмом своевременность появления нашего «Выбора»—газеты большого региона Беларуси. Будем ее распространять в России, Прибалтике, за границей. Разумеется, несолидно газете претендовать на монополию в освещении демократического движения. Но быть заботливым другом демократии, помогать ее безудержному становлению—долг каждого прогрессивного журналиста. Поэтому «Выбор» и намерен помещать на своих страницах лучшие публикации коллег из других изданий.*

*Это было недавно, или Вчерашний день в документах и фотографиях*

# И ПРОДАЛИ... СВОЕМУ НАРОДУ

ПИСЬМО БЫЛО ПРОИГНОРИРОВАНО ДЕЛЕГАТАМИ-КОММУНИСТАМИ

**Делегатам 31-го съезда Коммунистической партии Белоруссии (Витебская областная партийная организация) первому секретарю ОК КПБ тов. Григорьеву В. В. от Витебского городского клуба избирателей «За демократические выборы».**

Уважаемые товарищи делегаты!

Общественности города Витебска стало известно о том, что новое строящееся здание обкома КПБ передается Минздраву БССР с возмещением в партийный бюджет 1 млн. 700 тыс. рублей, затраченных на строительство средств.

Члены Витебского городского клуба избирателей «За демократические выборы» обращаются к вам с просьбой поставить на съезде вопрос о безвозмездной передаче этого здания. Нам кажется, что в сегодняшней обстановке такой акт со стороны Коммунистической партии вызовет одобрение всех граждан города Витебска, докажет, что коммунисты не словом, а делом заботятся о людях. Считаем также, что такой гуманный и благотворительный акт намного поднимет авторитет областной партийной организации.

Если решить этот вопрос на съезде не представится возможным, то просим делегацию коммунистов Витебской области ходатайствовать перед новым ЦК КПБ о безвозмездной передаче здания.

**Принято на заседании клуба 22.11.1990 г. единогласно.**

**ОТ РЕДАКЦИИ:** данное письмо Витебского городского клуба избирателей «За демократические выборы» осталось гласом вопиющего в пустыне. Делегаты-коммунисты от витебской областной организации его игнорировали. Обком КПБ продал Минздраву, т. е. своему народу, объект, ранее предназначавшийся для обкома КПБ, за 1 млн. 700 тысяч рублей.



**На снимке:** новое здание бывшего обкома КПБ.

Фото **А. Гапонова.**

# НЕ ДОВЕДИ, БОЖЕ, НАС, ДЕМОКРАТОВ...

Два фотоснимка в день празднования 1-го Мая во Франкфурте-на-Одере (ГДР) сделал коллега витебских журналистов корреспондент бывшей газеты «Нойер таг» Хайнц Кёллер.

С тех пор многое в бывшем городе-побратиме Витебска и у нас изменилось. Сокрушены коммунистические догмы, которым следовали миллионы людей. А как пели совсем еще недавно «Дружба-Фройндшафт!». А сколько было поездов Дружбы, застолий и здравиц. Был и позор: немцы на один день отдавали на растерзание витебскому многолюдному коллективу Поезда Дружбы франкфуртский универмаг (своих горожан в этот день магазин не обслуживал). Некоторые посланцы нашей области запускали руки до самого дна в контейнеры с аккуратно сложенными рубашками, выворачивали содержимое этих контейнеров, и этим самым вызывали ужас на лицах продавцов...

Немцы, болгары, поляки, венгры значительно раньше нас поняли всю несостоятельность революции, о необходимости которой говорили большевики. А что поняли мы, белорусы, русские, украинцы, евреи и другие народы? Насколько нам ясна чудовищная цена нашего «73-летнего «египетского плена»?

Несомненно, и во все годы после злополучного штурма Зимнего Дворца советские люди не раз проявляли свои лучшие нравственные качества. А что из этого вышло? Поколения стали заложниками тоталитарной системы, пришли к духовной и моральной нищете. И естественно, что многим гражданам-современникам до сих пор не удалось отказаться от стереотипов старого идеологического мышления, которое так долго и рьяно насаждалось. В адрес авторов телевизионных передач и газетных публикаций, которые развенчивают эти стереотипы, не зря часто раздается: «Антисоветчики!»

Вот так. Нет, чтобы разобраться в фактах, явлениях,—лучше навесить на журналиста ярлык. Это уже по-большевистски. Сам Владимир Ильич всегда преуспевал в изобретении кличек. Одна только — «Иудушка-Троцкий» — чего стоит. Преуспевал вождь, широко применяя народные пословицы и поговорки. Не доведи, Боже, нас, демократов, когда-либо до такого преуспевания!

**М. Р.**

# ПЕРЕЖИЛИ ПЕРВЫЙ ИСПУГ

***Адреса солидарности. Их немало было в республике после того, когда жители Орши этой весной вышли на улицы. Не сладко потом пришлось вожаку оршанских рабочих Николаю Разумову. В редакцию передали листовку тех горячих дней с просьбой опубликовать ее.***

Заводчане!

1 августа партийная мафия начала судилище над председателем стачкома г. Орши Николаем РАЗУМОВЫМ. Боясь гнева оршанцев, заседания суда проводятся в Могилеве.

По нашим данным, номенклатура ЦК уверена, что, проглотив копеечные компенсации, рабочие заводов будут покорно взирать на расправу над своими же братьями.

Настал час испытаний, идет проверка нашей совести.

Вспомните, что мы говорили друг другу на митингах в апреле? Никого не отдадим в лапы сталинистов. Стачки в апреле-мае заставили трепетать закормленных функционеров.

Пережив первый испуг, сегодня они пытаются расправиться с каждым участником стачки поодиночке!

Рабочий и служащий! Помни!

Сегодня пришли за РАЗУМОВЫМ, завтра придут за тобой!

У нас есть одно оружие в свою защиту—солидарность.

Заводы МЗАЛ, Козлова, шестерен первыми в апреле не захотели жить, стоя на коленях.

Мы надеемся на Вас и сейчас призываем провести в своих коллективах собрания и другие возможные акции в поддержку Николая РАЗУМОВА.

**Стачечный комитет г. Минска**

*Водгук з сесіі*

# Трэба вырашаць самім?..

Хоць КПБ юрыдычна не існуе, але на пазамінулай сесіі дэпутаты-камуністы не здавалі пазіцыі. Сапраўды, нельга ж было ім браць за горла і ўласнымі рукамі душыць сваю ўжо несцягансную гвардыю. Ці хутчэй за ўсё—яе мазгавы штаб. Таму імі быў унесены даволі памяркоўны законапраект, дзе прапанавалася «дазволіць на працягу 1991 года арганізацыям і органам КПБ правесці мерапрыемствы для самавызначэння». Але з двухсоценнага камуністычнапарламенцкага корпусу гэты дакумент падтрымалі толькі 140 дэпутатаў.

Колькасць жа праціўнікаў кампартыі ў апазіцыі павялічылася ў тры разы. За прыпыненне дзейнасці КПСС—КПБ і нацыяналізацыю яе маёмасці прагаласавала 110 чалавек.

Такім чынам, у адных—рэзкае змяншэнне прыхільнікаў, у другіх—рэзкае павелічэнне. Аднак пакуль што не прайшла ні тая, ні другая прапанова.

Тады знайшлі «палачку-выручалачку», вырашыўшы ўвесь цяжар і адказнасць перакласці на плечы народа. Гэта значыць, параіцца з ім, правёўшы 1 снежня рэферэндум аб лёсе маёмасці і самой КПСС—КПБ.

Тут жа была ўнесена прапанова правесці і рэферэндум аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета.

А чаму б і не, паважаныя чытачы? Калі парламент сам няздольны вырашаць важнейшыя для народа пытанні, дык ці патрэбны такі парламент увогуле?

Прапанова па абодвух рэферэндумах не прайшла таксама. Дэпутаты імгненна змікіцілі, што народ (а ён заўсёды, кажуць, быў тварцом гісторыі) прыме правільнае рашэнне. І тады на КПБ і на яе дэпутатах у парламенце будзе канчаткова пастаўлены крыж.

Усе праблемы вырашылі проста: закончылі сесію і раз'ехаліся хто куды. А, можа, раіцца з народам?

Як пісала «Народная газета», ёсць сесія—ёсць праблемы, няма сесіі—няма праблем!? Але гэта ў дэпутатаў. У нас жа—усё па-ранейшаму: турбот поўны рот. Мусіць, трэба брацца за іх вырашэнне самім.

**Назіральнік.**

## Телефонограмма в номер

Независимые социологи Витебского городского клуба избирателей «За демократические выборы» провели в областном центре опрос общественного мнения.

Гражданам был задан один вопрос: считаете ли Вы необходимым передать имущество КПБ народу? «За» ответили 68 процентов, «нет»—15 процентов, 17 процентов опрошенных затруднились сказать что-либо определенное.

**Юрист С. РУБИН.**






*Слова з крыжа маўчання*

# Інтэрв'ю з выкарыстаннем «службовых

ШТО ЗРОБІШ, але да людзей «асобай пароды» я ніколі не ставілася з сімпатыяй. Ды і не ведала я іх блізка, за выключэннем некалькіх райкомаўскіх інструктараў, якія ў большасці былі неблагія хлопцы, хаця грашылі абмежаванасцю ды ганарлівай пыхлівасцю ад набытай пасады.

А тут—на табе! Жыццё павярнула крута: амаль з вясковай настаўніцы (бо раней жыла ў райцэнтры) трапіла ў абласную сталіцу і не абы-куды, а ў партыйную газету. І гонар мне выпаў вялікі таксама. Дзесьці пасля месяца работы ў рэдакцыі завітаў у горад не абы-хто, а сам Валерый Гур'евіч Ціхіня, сакратар ЦК КПБ, ён жа—доктар юрыдычных навук і народны дэпутат. Прыехаў ён па падрыхтоўцы нашага несвядомага люду да ўсесаюзнага рэферэндуму за «вялікі магутны Савецкі Саюз». А правесці інтэрв'ю з ім даручылі мне.

Адмовіцца было неяк, бо гэта было заданне па выпрабаванні маіх журналісцкіх магчымасцей, і я разумела, што яго мне нельга не выканаць. Ды і сама адмова была б раўназначна знявазе ўсёй партыі і ўсяму вялікаму агульнаму дому—СССР.

З другога боку—было да свербаты цікава атрымаць адказы на ўсе мае сумненні, што, чаго граха таіць, трывала пасеялі ў душы маёй усе новаяўленыя партыі і «так званыя» лідэры БНФ. Апошнія мне былі чамусьці сімпатычныя, і я не магла, як ні ўбівалі ў галаву, паверыць у іх злыя намеры, палітычныя амбіцыі і «далеко идущие цели». Бо многія з іх былі знаёмыя мне па універсітэцкаму юнацтву, і не ўкладвалася ніяк, што мае былыя сакурснікі, выкладчыкі ці творчая інтэлігенцыя Саюза пісьменнікаў—гэта тыя самыя, што толькі дзеля задавальнення ўласных амбіцый гатовы давесці свой народ да жабрацтва, пастраляць камуністаў і заняволіць другія нацыі.

У прызначаны час я з хваляваннем пераступіла нумар гасцініцы «Віцебск», дзе прыпыніўся шаноўны доктар юрыдычных навук. Напачатку была нават збянтэжанасць: неяк знешні выгляд не адпавядаў таму палымянаму і актыўнаму вобліку няўрымслівага дэпутата, якога я пастаянна прывыкла бачыць з экрана тэлевізара ў час сесіі. Але гэта была толькі хвілінная збянтэжанасць. Валерый Гур'евіч аказаўся на дзіва абаяльным і тактоўным чалавекам, што цяжка было нават суаднесці з пасадай сакратара ЦК КПБ. Чалавек асобай пароды?

Цякла хоць і палітычная, але прыемная, з адценнем хатняй утульнасці гутарка, якую непрыкметна фіксавала стружка дыктафона. Я радавалася, што інтэрв'ю ўдалося, што не пала тварам у бруд ні перад рэдактарам, ні перад самім доктарам юрыдычных навук. Ды раптам Валерый Гур'евіч дастаў стос папер, і мякка, але настойліва прапанаваў: «Гэта выкарыстаеце ў сваёй рабоце». Я ўзяла ў рукі паперы і адразу ж адчула ў пальцах трывожную пульсацыю біятокаў. На тытульным лісце стаяла: «Сакрэтна. Для службовага карыстання». Стала не па сабе, нават зніякавела ад сполаху.

Забегла ў рэдакцыю, а потым, каб ніхто не перашкаджаў, паехала дамоў працаваць. Праз некалькі гадзін інтэрв'ю са штучным пытаннем з дакумента «для службовага карыстання» было зроблена. Якніяк Валерый Гур'евіч паабяцаў наведаць мяне ў рэдакцыі раніцой. Не хапіла мужнасці не выкарыстаць мякка-настойлівую прапанову па характарыстыцы БНФ і другіх палітычных партый на Беларусі. І я гэта зрабіла.

На другі дзень аб тым, што прыйдзе дэпутат В. Ціхіня ў рэдакцыю, ведалі ўсе. Усхваляваны рэдактар выглядаў у маіх вачах наіўным дзіцем, асабліва, калі папрасіў: «Ты спытай у яго, Жэня, а што такое абноўлены Саюз?.. Звоняць чытачы, і не ведаю, як растлумачыць...»

Вось дык вось, падумалася, не ведаем, а ўжо колькі месяцаў агітуем за яго, абноўлены. Неўзабаве з'явіліся і высокія госці: сам доктар Ціхіня, яго памочнік і першы сакратар гаркома партыі А. Барзянкоў. Да рэдактара не заходзілі, толькі Валерый Гур'евіч сказаў: «Ваш сакратар перадаў выразку з маім выступленнем у «Вячэрнім Мінску» рэдактару. Трэба яго ўключыць у інтэрв'ю».

Выразку прынеслі, і ў маім матэрыяле з'явілася пытанне, якога я асабіста не ставіла шаноўнаму дэпутату. Штучнае ўключэнне ў інтэрв'ю тычылася «...парушэнняў грамадскага парадку пры правядзенні альтэрнатыўнага мітынгу 7 лістапада 1990 года ў Мінску». Так з'явілася пытанне і з'явіўся адказ—слова ў слова, як у «Вячэрнім Мінску», хаця ўжо тады было многім вядома, што адбыліся правакацыі, што, напрыклад, той чалавек, які разбіў бутэльку гарэлкі аб бюст Леніна, быў псіхічна

# ГКЧП: АБЛАСНАЯ ХРОНІКА

***Уважаемая редакция! Ни одна местная газета почему-то не внесла полную ясность: кто же и каким образом поддержал на Витебщине ГКЧП? Сообщили только об одном-двух фактах. Убедительно прошу «Выбор» дать такую информацию. Мы должны знать имена своих «местных героев». Пусть, конечно же, они трудятся и кормятся на здоровье. Но с кем мы сегодня «идем в разведку» к правовому государству, мы должны знать.***

***г. Витебск*** ***А. АВСЕЕВ, рабочий.***

**(З матэрыялаў рабочай групы часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая праверыла дзейнасць грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады, некаторых службовых асоб у перыяд спробы дзяржаўнага перавароту)**

**СЯННО.** 19.08.91 г. па ініцыятыве сакратароў РК КПБ М. Ф. Дамашкевіча, З. С. Пучкоўскай, В. І. Шылак у 14 гадзін адбылося пашыранае пасяджэнне бюро, на якое былі запрошаны сакратары партарганізацый і гаспадарчыя кіраўнікі з удзелам старшыні райсавета С. Т. Вайцяховіча. У раённай газеце «Ленінская іскра» ад 22.08.91 г. было змешчана па выніках бюро рэдакцыйнае паведамленне: «Пастанова № 1 Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу павінна стаць праграмай дзеяння кожнага грамадзяніна».

Бюро было праведзена ў рабочы час, што супярэчыла арт. 5. Закона СССР «Аб грамадскіх арганізацыях», адпаведна якому дзейнасць палітычных арганізацый ажыццяўляецца пасля работы і за кошт гэтых арганізацый, а таксама арт. 9 Закона БССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР», які ўстанаўлівае, што ўмяшанне грамадскіх аб'яднанняў у дзейнасць дзяржаўных органаў і службовых асоб не дапускаецца.

**УШАЧЫ.** 19.08.91 г. адбылося сумеснае пасяджэнне выканкома раённага Савета народных дэпутатаў і бюро РК КПБ. У адрас ГК ЧП дадзена адабральная тэлеграма, тэкст якой асабіста падрыхтаваў і даручыў адправіць старшыня райсавета І. І. Баруноў.

Сумеснае рашэнне аб накіраванні тэлеграмы ў адрас ГК ЧП з'яўлялася парушэннем арт. 7 Закона БССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР», адпаведна якому забараняецца прыняцце сумесных актаў органаў дзяржаўнай улады, кіравання і грамадскіх аб'ядна няў.

Тэлеграма не была ўзгоднена з членамі выканкома, прэзідыума Савета.

**ТАЛАЧЫН.** З 19 па 21 жніўня РК КПБ размножыў і накіраваў у пярвічныя партарганізацыі машынапісны тэкст на сямі старонках пад назвай «Аб бягучым моманце і праекце новай праграмы КПСС» для абмеркавання на адкрытых партыйных сходах. Аўтарам быў першы сакратар РК КПБ І. М. Бобышаў. У тэксце гаварылася, што пастановы ГК ЧП «успрыняты з адабрэннем і поўнай падтрымкай, што ў гэты цяжкі час доўг усіх сумленных людзей—накіроўваць усе намаганні на безумоўнае выкананне Законаў СССР, патрабаванняў ГК ЧП, рашуча даваць адпор «дэмагогам і палітычным авантурыстам».

У тым жа стылі 20.09.91 г. І. М. Бобышавым у 8.30 была праведзена нарада з супрацоўнікамі Талачынскага РАУС, што супярэчыла арт. 9 Закона БССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР».

Пры праверцы ў РК КПБ выяўлена ілжэпастанова бюро ад 19.08.91 г., дзе дзейнасць ГК ЧП прызнавалася супрацьзаконнай. На самой справе яна друкавалася толькі 22.08.91 г.

**ОРША.** 20.08.91 г. на выканкоме гарадскога Савета была разгледжана заява групы грамадзян аб дазволе на правядзенне мітынгу. Кіруючыся пастановай ГК ЧП № 1, выканком рашэннем № 315 адмовіў у яго правядзенні.

20 і 21 жніўня у ГА УС даставяліся асобы з самаробнымі стэндамі і нацыянальным флагам, якія заклікалі ісці на несанкцыяніраваны мітынг, не падтрымліваць ГК ЧП.

У дзеяннях работнікаў міліцыі бачны службовыя пралікі: не была праведзена праверка ўказаных абставін, рапарты былі напісаны няпоўна і з выкарыстаннем неправераных дадзеных, бланкі адміністрацыйных пратаколаў знішчаны. У дастаўленых асоб склад адміністрацыйнага правапарушэння адсутнічаў.

**ВІЦЕБСК.** У АК КПБ ад 19.08.91 г. з ЦК КПСС паступілі дзве шыфратэлеграмы. У адной з іх прапаноўвалася партыйным арганізацыям аказаць падтрымку ГК ЧП, а ў другой—інфармаваць ЦК КПСС аб становішчы спраў на месцах. 20.08.91 г. шыфратэлеграмы з дазволу сакратара В. І. Тарасевіча знішчаны.

21.08.91 г. у 9 гадзін 10 мінут з Мінюста БССР за подпісам міністра юстыцыі Дашука паступіла тэлефанаграма: «У сувязі з увядзеннем надзвычайнага становішча ў асобных месцах прашу тэрмінова прыняць неадкладныя меры па падтрымцы арганізаванасці, дысцыпліны і парадку ў рабоце кожнага народнага суда і ўстановы юстыцыі».

Кіраўніцтвам абласнога ўпраўлення юстыцыі (начальнік В. Ф. Мядзведзеў) было прынята рашэнне рэкамендаваць суддзям і работнікам юстыцыі падтрымліваць арганізаванасць і дысцыпліну і захоўваць звычайны рэжым і парадак работы судоў.

Змест тэлефанаграмы т. Дашука быў з адпаведнай суправадзілаўкай адпраўлены па інстанцыях для кіраўніцтва і выканання.

Парушэнняў у дзейнасці судоў, аднак, не было. Рэкамендавана прэзідыуму абласнога Савета пытанне аб ацэнцы дзеянняў т. Мядзведзева вынесці на разгляд чарговай сесіі.

25.08.91 г. затрыманы аўтамашыны АК КПБ з маёмасцю на суму больш 70.000 рублёў, якая была прададзена калгасу імя Суворава Пастаўскага раёна. У ходзе далейшай праверкі неабходна вызначыць законнасць набыцця гэтай маёмасці АК КПБ, паколькі частка яе набывалася на валютныя сродкі прадпрыемстваў. Праверка вядзецца пракуратурай.

Старшы рэдактар абласнога радыёвяшчання М. Н. Глушакоў у сваім выступленні прызнаў стварэнне ГК ЧП мерай вельмі важнай і неабходнай. Улічваючы мноства нефіксаваных званкоў ад грамадзян, жадаючых выступіць у падтрымку ГК ЧП, ён выказаў думку, што большасць працоўных вобласці аказваюць камітэту сваю падтрымку.

Пры падрыхтоўцы да друку заявы Віцебскай гарадской філіі БСДГ, дзе асуджалася дзейнасць путчыстаў, рэдактар газеты «Віцебскі рабочы» У. Р. Скапа скараціў аўтарскі тэкст, чым парушыў арт. 1 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», які прадугледжвае забарону цэнзуры масавай інфармацыі. Тое ж было зроблена рэдактарам з артыкулам «Звярніце ўвагу, чытачы» ад 27.08.91 г., дзе расказвалася аб вывазе партыйнай маёмасці на тэрыторыю калгаса імя Суворава.

Галоўнаму рэдактару зроблена папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

Вывад камісіі па расследаванню: асобныя кіруючыя органы раённых арганізацый КПБ выказалі падтрымку палітыцы дзяржаўнага перавароту і дапусцілі парушэнні дзейнічаючага заканадаўства аб парадку функцыяніравання грамадскіх аб'яднанняў.



*Дык ці толькі яна вінавата,*
*Да радзін яшчэ нашых вайна,*
*Што ўсё больш забіваецца хатаў*
*І штогод — то ад'езд, то труна.*



# Дзе чытаюць «Выбар»?

Як аказалася, геаграфія распаўсюджвання нашага выдання не абмяжоўваецца адной толькі Віцебшчынай ці Беларуссю. Першы нумар «Выбару» быў адпраўлены ў Францыю, Нямеччыну, Ватыкан, Вялікабрытанію, Аўстралію. Але найбольшая колькасць паасобнікаў «Выбару» трапіла ў Польшчу, у ЗША ды Канаду. У гэтыя і іншыя краіны наша газета будзе даставяцца рэгулярна.

**С. НАДЗЕЖДЗІН.**




# сакрэтаў» В. Ціхіні

хворы (аднак прыняты ў КПСС за месяц да лістападаўскіх падзей). Такія, аказваецца, таксама патрэбныя ў партыйнай палітычнай барацьбе. А наконт іншага, следства ідзе і па сённяшні дзень. Ці закончыцца хоць?

У акружэнні высокіх гасцей (далучыўся і рэдактар) я, як школьніца ў час іспытаў, сядзела за рабочым сталом і ўслых чытала сваё бліскучае да ганебнасці інтэрв'ю, а чуйнае вуха памочніка В. Ціхіні лавіла, як лакатар, усе яго адценні, і мяккі, нават пяшчотны, голас далікатна ўносіў у яго патрэбныя карэктывы.

На душы было цяжка і прыкра. І вось яны пайшлі. А я хадзіла па кабінеце і ад бяссільнай злосці і прыніжанасці ледзь не рыпела зубамі. А потым, праз некалькі гадзін, чытала праз слёзы сябрам верш, які нарадзіўся з нагоды стварэння інтэрв'ю. Я плявалася ім.

Колькі ж доўжыцца здзеку з
душы,
За якія грахі я праклятая,
Што вішу на ўласным крыжы
Я, сама сабою распятая?

А з пакутнай маёй бяды
Кпяць падонкі і розныя лідэры...
Мне б паслаць іх туды-растуды,
Агрызнуцца б з вялікай літары.

Мне б хоць слова адной знайсці,
Каб падняцца над бруднай
звадаю.
Каб з крыжа маўчання сысці
І ўваскрэснуць святою праўдаю.

Як цяжка мне было сысці з крыжа маўчання, але я набралася мужнасці і зрабіла выбар. Ён, мой выбар, пачаўся, мусіць, тады, калі вяртала я шаноўнаму сакратару яго трактаты пад грыфам «сакрэтна».

Помніце, Валерый Гур'евіч, сказала я тады: «Мне вашы сакрэты, ды і не толькі мне, вядомыя ўжо два гады назад. Калі так будзеце працаваць, застанемся і я, і вы без работы ўжо недзе праз год».

Здарылася ўсё намнога раней. Толькі таварыш Ціхіня ўсё роўна хоча аднавіць партыю і працаваць у ёй ужо без падтасовак. А я нават з абноўленай не хачу. Бо ведаю, што людзі «асобай пароды» не могуць змяніць сваёй сутнасці, нават калі абновяцца.

Можа, лепш ім, паколькі яны заўсёды любілі «раіцца» з народам, запытацца ў яго на чарговым рэферэндуме: «А ці патрэбныя мы вам?»

Упэўнена, народ не зробіць памылкі.

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

## Нужен ли музей тоталитаризма!

**Участники сентябрьского городского митинга в Витебске на стадионе «Динамо» потребовали от местных властей рассмотреть вопрос о создании в областном центре музея тоталитаризма. В частности, предлагалось собрать в нём памятники вождей различного ранга советского периода, которые установлены на улицах и площадях города.**

**Начальник управления культуры облисполкома Н. Пашинский, сославшись на республиканский закон «Об охране и использовании памятников истории и культуры» ответил демократам отказом.**

**А какова твоя точка зрения, читатель?**

**С. БОРИСОВ.**

## Лепей павучыцеся пісаць без памылак

такую параду хацеў бы даць тым, «хто змагаецца супраць БНФ», «каб зноў былі тавары ў магазінах, каб спакойна жылося беларусам» у абноўленым Саюзе. Такія заклікі да барацьбы з Фронтам заўважаны мною 5 кастрычніка ва ўлётцы, што вісела на забруджанай вітрыне былога «Дзіцячага свету» на пляцы Перамогі ў Віцебску.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

*А что у вас, учителя-демократы?*

# «ПОТЁМКИН» НА УЛИЦЕ ЛЕНИНА

***Еще год назад мало кто мог подумать, что в сфере витебских политически безмолвных, затурканных комиссиями и педагогическими советами учителей родится команда, которую можно было бы сравнить со старым возмутителем спокойствия—броненосцем «Потемкин».***

***Времена нынче, конечно, не те. У моряков были пушки А группа наставников средних школ держала транспаранты: «Школу—вне политики!», «Убогая зарплата—убогое образование» и т. п.***

***А дело было так. Этой весной, 1-го Мая, в день Международной солидарности трудящихся—городской забастовочный комитет учителей вывел во время демонстрации на улицу Ленина сводную колонну бунтарей—педагогов разных школ. Тот факт, что эти наставники не захотели идти по улице в общей колонне демонстрантов, уже был дерзким непослушанием. Особенно непокладистыми в своих требованиях для вышестоящего отраслевого, а также партийного начальства оказались педагоги средней школы № 40, где и родился стачечный комитет учителей.***

***Наш корреспондент беседовал с одним из его организаторов—преподавателем русского языка и литературы Р. С. Файнштейном.***

**—Как это вы решились на такое выступление в день 1-го Мая! Вот вы лично! Объясняли бы, как и раньше, ученикам суть художественных особенностей романа «Евгений Онегин» и не искали бы приключений...**

—Я, как и многие другие, осознал, что являюсь орудием огромной машины тоталитаризма. Ведь мы же, учителя, не формируем личности, а в основном подавляем их. Сами—рабы и таких же воспитываем.

**—Не слишком ли вы категоричны!**

—Естественно, из советской школы во все годы, несмотря ни на что, вышло немало достойных людей. И в то же время в прошлом народное образование воспитывало Шариковых, а в последнее время—Янаевых и Крючковых.

**—Без конкретных примеров нам не обойтись...**

—После кровавых событий в Вильнюсе в январе я беседовал со старшеклассниками. Многие ребята одобряли действия нашей армии. А некоторые (правда, таких было мало) говорили, что и они пошли бы на штурм телевизионной башни в Литве.

**—Были, конечно, и молчуны!**

—А как же! Расчетливо ожидали, что скажет учитель, чтобы, разумеется, потом присоединиться к его мнению.

**—Как гражданин военнообязанный,вы бы стреляли в толпу!**

—Двадцать лет назад, возможно, и стрелял бы. Но, к счастью, в последние годы освободился от идеологической зашоренности.

**—Значит, годы перестройки оказались небесполезными для Вас!**

—Не только для меня. Повезло, что коллектив нашей школы сформировался недавно. В прошлом году шесть коммунистов вместе с секретарем партийной организации вышли из рядов КПСС. Все учителя поддержали идею создания забастовочного комитета, который позже стал городским. И отрадно, что уже в ноябре прошлого года на первой конференции забастовочных комитетов учителя приняли решение бороться не только за улучшение своего экономического положения, но и за департизацию школы.

**—Что главным сегодня должно быть в работе учителя!**

—Полное раскрепощение, ощущение свободы, в основе воспитания ребят—духовные общечеловеческие ценности.

**—Кто же мешает!**

—Бюрократическая система управления народным образованием, стереотипы старого мышления. Учитель в управленцах не нуждается, и его направлять, пасти незачем. Финансы, техническая помощь—вот и вся должна быть система управления. А если тому же педагогу понадобиться консультация, то только из высокопрофессионального источника.

**—А нынешние начальники!**

—Не хочется о них вспоминать.

**—И все же.**

—Возглавляет в области народное образование Гирса Н. М. Много лет был первым секретарем Ушачского райкома КПБ. Как он попал на эту должность—общеизвестно. Партийный номенклатурщик. Чем он известен среди учителей? Пожалуй, больше тем, что оперативно получил личную автомашину. Ведь у очереди учительской (а она на транспорт велика) разрешения не спросил. Да, собственно, дело не в автомобиле. Если бы тот же Гирса имел высокопрофессиональные заслуги перед педагогами области, прослыл новатором, подлинным защитником учительства, мы, педагоги, сами за свои деньги изыскали бы возможность и подарили ему автомобиль.

**—Вывод!**

—Срочно необходим подлинно демократический закон Белоруссии о народном образовании. Он должен упразднить нынешние управленческие структуры, которые инородны в нашей школе, не вобрали в себя современных достижений цивилизованного мира. И надо смело, по возможности, хотя это очень сложный вопрос, идти на приватизацию школ, гимназий, лицеев и т. д.

**—А забастовочное движение среди учителей!**

—Будем его развивать. Чиновники всех уровней просто так не сдадутся.

**—А ваш профсоюз!**

—Мягко говоря, это очень несолидная организация и задача учителей—сделать ее подлинно демократической.

**—Что-то ваш забастовочный комитет притих. Это что! Передышка!**

—Не волнуйтесь, вы скоро о нем услышите.

**Вёл диалог О. ИСАЕВ.**

*Хто што думае*

# ЦІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГЭТА МУЖ?..

***мяркуйце па гутарцы, якую меў наш карэспандэнт у Менску з народным дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь І. І. ЦЯРЭШКАМ.***

**—Іван Іванавіч, вы намеснік старшыні Пастаяннай Камісіі па знешнеэканамічных сувязях. Адкажыце на пытанне, якое хвалюе грамадскасць: Беларусь сёння—незалежная дзяржава. Ці будуць адкрывацца яе прадстаўніцтвы ў іншых краінах, і, зразумела, замежныя пасольствы ў нас?**

—У Беларусі прадстаўніцтвы абавязкова будуць.

**—Чаму тады наша рэспубліка не спяшаецца з прызнаннем незалежнасці дзяржаў Прыбалтыкі? Іх жа прызнала Расія і іншыя. Трэба хутчэй наладжваць эканамічныя сувязі.**

—А чаго нам спяшацца?

**—Але ж неабходна, каб напачатку былі прызнаны дзяржавы, тым больш дзяржавы-суседзі, з якімі мы павінны мець добрыя адносіны?**

—Я думаю, усё будзе зроблена. На ўсё патрэбны час. Вельмі многа пытанняў. Вырашаць неабходна абдумана.

**—Польшча, якая па-за тэрыторыяй нашага былога Саюза, незалежнасць Беларусі прызнала адразу, а мы ў адносінах да суседзяў знаходзім шмат праблем для адцягнення прызнання. Якія ўсё ж-такі на сённяшні дзень адносіны з Літвой?**

—Такія, якія і былі. Узаемавыгадныя.

**—Дык у чым справа? Для якіх канкрэтна праблем патрэбны час, што бянтэжыць наш урад?**

—Ёсць некаторыя пытанні...

**—А з якімі краінамі мы ўжо заключылі эканамічныя пагадненні?**

—У стадыі падрыхтоўкі знаходзяцца многія пагадненні. Так, напрыклад, з Венгрыяй, Аўстрыяй, Чэхаславакіяй, Польшчай. В. Кебіч выязджаў у Японію, другія краіны. Перагаворы на розных узроўнях ідуць кожны дзень, але вялікіх набыткаў у нас у гэтым плане яшчэ няма.

Шмат пытанняў па эканамічнай і палітычнай абстаноўцы, пытаннях знешняга доўгу.

**—Маецца на ўвазе доўг, які набраў былы Савецкі Саюз і які цяпер трэба неяк раздзяліць паміж новаўтворанымі дзяржавамі?**

—Так, яго ж патрэбна раздзяліць. Ёсць розныя падыходы. На ўзроўні ўсіх рэспублік вядуцца перамовы. І калі гэты доўг будзе падзелены і пачнецца яго пагашэнне, тады ў зусім іншую стадыю ўступяць нашы эканамічныя адносіны.

**—Барыс Ельцын сказаў, што заключэнне эканамічнага саюза будзе магчымым пры стабільнай і адзінай палітычнай сістэме. У адваротным выпадку Расія збіраецца шукаць замежных партнёраў для эканамічных сувязей, не такіх збяднелых, як рэспублікі...**

**Як гэта разумець? У нас жа толькі што распалася адзіная палітычная сістэма?**

—У Расійскім парламенце па гэтым пытанні галасы раздзяліліся. Многа разумных думак, а як яно будзе на практыцы, пакажа час.

**—Беларусь у сваёй знешнеэканамічнай дзейнасці будзе абапірацца, пэўна, на аграрны фактар, паколькі сельскагаспадарчая сыравіна, бадай, адзінае, з чым мы можам выходзіць на іншыя дзяржавы. Земляробства трэба развіваць. Ці дапаможа ў гэтым плане прыватызацыя зямлі?**

—Мы прызналі на сесіі права прыватнай уласнасці на зямлю, але тут патрэбны механізм яго рэалізацыі. Важна, каб прыватызацыя пайшла на карысць справе.

**—Дык, а хто будзе шукаць гэтыя механізмы? Чаму законы прымаюцца толькі для таго, каб іх прыняць? Яны ж не дзейнічаюць і ўсё ідзе ў заняпад. Так можна дажыцца да таго, што кожны сам для сябе будзе апрацоўваць зямлю проста сукам, не чакаючы, пакуль нехта дасць тэхніку? А яе не даюць ужо ні фермерам, ні калгасам.**

—Уласнасць, канечне,—гэта першааснова. Для яе развіцця неабходна даць нямала і грашовых, і матэрыяльных сродкаў.

**—Але іх няма. Можа, і патрэбна пачынаць з таго, як хто можа?**

—Сродкі трэба знайсці і даць для сельскай гаспадаркі.

**—Колькі ж іх шукаць? Аб гэтым толькі гаворыцца, а калгасна-саўгасная гаспадарка развальваецца. Фермерства таксама не мае падтрымкі...**

—Вось, каб гэта ўсе зразумелі...

**—Ды што тут разумець? Вярхоўны Савет прымае рашэнні, іх неабходна выконваць. Інакш навошта нешта прымаць, не ведаючы, як знайсці сродкі і механізмы для рэалізацыі сваіх жа законаў?**

—Каб адразу запрацавалі законы—гэта ж немагчыма... Што, выходзіць, пойдзем назад, калі будзем развіваць аграпрамысловыя комплексы?

**—Мы даўно ідзём назад. Як гэта мы за столькі гадоў не ведалі, што некалі выйдуць са строю нашы тэхналогіі, што не будзе запчастак, не стане сродкаў. Хто і што думаў? Што зараз робіцца для будучага? Чаму мы самі нічога не арганізоўваем на перспектыву, не рыхтуем спецыялістаў? Пачынаем кідацца, калі амаль усё раптам выйдзе са строю, а закупіць новае няма за што?**

—Тут пагадзіцца з вамі зусім нельга. Першыя крокі ўжо зроблены. Ёсць дамоўленасць па падрыхтоўцы спецыялістаў у іншых краінах. Дваццаць чалавек едзе ў Германію...

**—І гэта робіцца толькі сёння? А што было на працягу дзесяцігоддзяў?**

—Наша эканоміка цэнтралізаваная, залежная ад іншых. Але паразрываць проста эканамічныя сувязі нельга, бо парушэнне аднаго звяна вядзе да ланцуговай рэакцыі ва ўсёй сістэме.

**—За што мы тады: за ранейшую цэнтралізацыю ці за эканамічную і палітычную незалежнасць?**

—Поўнай незалежнасці не можа быць. Усё павінна будавацца на ўзаемавыгаднай аснове.

**—Значыць, па-вашаму, раней было больш узаемавыгадна. А цяпер, калі парушыўся гэты ланцуг, становішча Беларусі пагаршаецца?**

—Важна ў пераходны перыяд не разбураць сувязі, якія былі.

**—Прабачце, мы толькі што прынялі Дэкларацыю аб незалежнасці... Выходзіць, мы вымушана зарэгістравалі яе, паколькі сапраўднай незалежнасці дабіваліся іншыя?..**

—Мы ў чымсьці занадта паспяшаліся. Патрэбна глядзець, што нам дасць гэтая паспешлівасць, каб затым не адыходзіць назад... Можна ж так парушыць усё, што і жыццё спыніцца.

**—Дык Літва ж «парушыла», тым не менш, па вашых словах, у нас тыя ж узаемавыгадныя эканамічныя сувязі? А калі ў Беларусі дабрабыт людзей лепшы, дык чаго трымацца цэнтралізацыі? Можна ж у эканамічных адносінах выходзіць на заходнія краіны?**

—Прабачце, пара заканчваць.

**АД КАРЭСПАНДЭНТА. Мяркуйце самі, чытачы, ці дадзены былі адказы на пастаўленыя пытанні. Мне падалося, што народны дэпутат І. І. Цярэшка не мае ўласных пазіцый і не зусім добра ўяўляе нават бліжэйшыя крокі Рэспублікі Беларусь.**

**Думаецца, звычайны старшыня сельсавета мае больш высокую дзяржаўную арыентацыю.**

Вера **АДРАДЖЭНСКАЯ.**

